

■ Сустрэча ў РТБД. Злева направа: Уладзімір Карачэўскі, Альжбета Шчапанская-Дамброўская, Анатоль Вап, Агнешка Карыткоўская-Мазур, Аляксандр Гарцуеў

# Мінск — Гродна. За кулісамі (ч. 3)

З дырэктаркай беластоцкага драмтэатра Агнешкай Карыткоўскай-Мазур і кіраўніком Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай маршалкоўскай управы Анатолем Вапам на калідорах Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі варушымся амаль як па тэатры імя Вянгеркі, то-бок, як у сябе дома. Калі мы прыходзім сюды 10 лютага, праз два гады ад папярэдняга візіту, на сцэне якраз адбываюцца аднаўляльныя рэпетыцыі да агляданай тады намі фольк-оперы «Адвечная песня» Янкі Купалы.

— Спектакль у нашым рэпертуары з 2002 года. Цяпер мы вырашылі яго крыху памяняць. Ёсць новае сцэнічнае афармленне і касцюмы, — расказвае наш добры знаёмы Аляксандр Гарцуеў, адзін з самых вядомых беларускіх рэжысёраў, мастацкі кіраўнік РТБД.

У п’есе вядучую ролю іграе Ігар Сігаў, з якім сустрэліся мы ў апошні час, наладжваючы кантакты. Тады ён быў галоўным дырэктарам гэтага тэатра. Потым, аднак, Міністэрства культуры не хацела з ім працягнуць кантракт на дырэктарскую пасаду. Прымаў ён рэпертуарныя і іншыя рашэнні занадта самастойна. Афіцыйна быў зняты па прычыне стану здароўя. На яго месца дзесяць месяцаў таму прыйшоў былы намеснік міністра культуры Уладзімір Карачэўскі. Аляксандр Гарцуеў, які для супрацоўніцтва ў якасці арт-дырэктара РТБД быў запрошаны Ігарам Сігавым, так цяпер апісвае напрамак, у якім кіруецца тэатр:

— На працягу трох гадоў майго знаходжання на пасадзе мы рашуча арыентуемся на сучасную беларускую драматургію, зусім новую, на дакументальныя спектаклі, якія да гэтага часу для нашага тэатра былі незнаёмым выклікам. П’есы ўзнікаюць непасрэдна тут, на аснове рэальных, узятых з жыцця дыялогаў, маналогаў, сітуацый. Такія дакументальныя выступленні рыхтуюцца рэжысёрам Аляксандрам Марчанкам (акцёр, рэжысёр, дырэктар Цэнтра беларускай драматургіі ў РТБД — М. Х.). Першы спектакль-даследаванне «Мабыць» якраз уваходзіць у рэпертуар. П’еса ўзнікла на базе размоў акцёраў, якія ў час водпускаў размаўлялі з простымі людзьмі і запісвалі іх маналогі. Можа, кожны з гэтых маналогаў непасрэдна не адносіцца да самаідэнтыфікацыі беларусаў, але глядач і так паставіць пытанне: хто сёння беларусы, як яны суадносяцца адзін з адным і з навакольным светам, у чым заключаецца іх значэнне, на якой мове яны гавораць, і што такое беларушчына. Акрамя таго, мы арыентуемся на «свежую» драматургію маладзейшага пакалення, напрыклад, Мікалая Рудкоўскага, Дзмітрыя Багаслаўскага, які распрацаваў драму «Мабыць».

## Сустрэча з дырэктарам-намеснікам міністра

Аляксандр Гарцуеў, так як Аляксандр Марчанка і Мікалай Рудкоўскі, на працягу апошніх двух гадоў наведвалі беластоцкі тэатр — у рамках чытанняў беларускіх драм. Аляксандр Гарцуеў дадае, цалкам пераканаяны, наступнае:

— Мы як тэатр зацікаўлены ў тэатральных паездках і ў больш шырокім супрацоўніцтве на міжнародным мастацкім узроўні, таму што мастакам патрэбная свежая кроў, а дастаўляюць яе іншая культура, іншы свет. Наступіў час, калі з гэтым цяжка, інакш, чым у дні маёй маладосці, калі я працаваў у тэатры імя Янкі Купалы і часта ездзіў па-за Беларусь. Факт, што ў асноўным па СССР, але далёка, нават за Урал.

У кабінеце дырэктара Карачэўскага ад пачатку размовы адчуваецца рабочая атмасфера:

— Адрозніваемся ад іншых тэатраў. Мы не з’яўляемся тыповым акадэмічным тэатрам, у нас хутчэй еўрапейскі фармат, прымаючы пад увагу спецыфіку нашай працы, сцэны і выступленняў, — тлумачыць рэжысёр. — Адразу пасля ўступлення на пасаду я пачаў шукаць кантактаў за мяжой. І, як я даведаўся аб прапанове дырэктаркі, ухапіўся за гэта абедзвюма рукамі. Мы зацікаўлены ў двух кірунках супрацоўніцтва: прадстаўленым дырэктаркай Карыткоўскай доўгатэрміновым праектам да 2016 года (больш падрабязна пра гэта ў «Ніве» № 9 — М. Х.) і абменам гастролямі. Мы не ставім сабе задачу зарабіць грошы, але даць нашаму калектыву магчымасць паказацца на іншых сцэнах. Цяпер, пры падтрымцы вашай і нашай амбасад і Польскага інстытута ў Мінску гэта магчыма.

Агаворваецца, аднак, крыху загадкава:

— Гэта не тое, што ў нас ёсць якія-небудзь абмежаванні ў творчым плане, але я не хацеў бы, каб тэматыка праектаў у стратэгіі далейшага сумеснага супрацоўніцтва супярэчыла палітыцы нашых краін. Я бачу добрыя перспектывы, з добрым грамадскім водгаласам.

У канцы гучаць канкрэтныя справы. 22, 23 і 24 красавіка РТБД мае гасцяваць у Беластоку. Дырэктар Карачэўскі прапануе паказаць беларускую нацыянальную трагедыю «Раскіданае гняздо» паводле Янкі Купалы і «Адвечную песню», а таксама «Адамавы жарты», народную камедыю паводле твораў Францішка Аляхновіча і Леапольда Родзевіча. Беластоцкі тэатр імя Вянгеркі мае завітаць у Мінск 12, 13 і 14 мая са спектаклямі «Гугулы», «Эміграны» (іграе акцёр тэатра імя Янкі Купалы Алег Гарбуз) і «Tango prohibicja». У рамках доўгатэрміновага праекта павінны быць распрацаваны дэталі, каб да пачатку восені ўжо адбыліся ў Беларусі тыднёвыя семінары, у якіх прымуць удзел па тры рэжысёры з Польшчы, па адным драматургу з Беларусі, Польшчы і Сербіі, тры акцёры з Польшчы і Сербіі, і шэсць акцёраў з Беларусі. Гэты этап працы ўключае ў сябе супольную імправізацыйную і рэжысёрска-драматургічную працы.

Дырэктар Карачэўскі:

— Мы клеілі кантакты паміж польскімі і беларускімі тэатрамі вельмі доўга. Трэба іх падтрымліваць, каб усё не развалілася.

## Да дырэктара Пінігіна на ліфце

Два гады таму спектаклі найстарэйшага ў Беларусі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы мы глядзелі на часовай сцэне Дома афіцэраў. У галоўнай сядзібе насупраць Прэзідэнцкага палаца працягваўся рамонт. Цяпер, у абноўленым будынку дзевятнаццатага стагоддзя, дзе ў снежні 1917 года адбыўся Усебеларускі кангрэс, а ў лютым 1919 года была прынята першая Канстытуцыя БССР, у кабінет галоўнага выканаўчага і мастацкага дырэктара Мікалая Пінігіна, легенды беларускай тэатральнай рэжысуры, мы ўзнімаемся на шосты паверх на сучасным ліфце. Па дарозе, на кожным наступным паверсе, пабач з інфармацыяй аб тым, дзе мы знаходзімся, адлюстроўваецца каляровая фатаграфія беларускіх рэканструяваных помнікаў. Адказная ў амбасадзе РП за публічную і культурную дыпламатыю Альжбета Шчапанская-Дамброўская, якая суправаджала нас падчас усяго візіту ў Мінску, спаглядаючы ў кабінеце дырэктара Пінігіна на рэпертуарныя планы тэатра, з захапленнем успамінае сваю нядаўнюю прысутнасць сярод мясцовай публікі:

— На штогадовай навагодняй сустрэчы дыпламатычнага корпуса па запрашэнні міністра замежных спраў Уладзіміра Макея я мела магчымасць убачыць «Местачковае кабарэ» да тэкстаў, у прыватнасці, Марыяна Гемара і Юльяна Тувіма пра жыццё ў заходняй Беларусі ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. Я да гэтага часу пад уражаннем ад спектакля, і, перш за ўсё, як заўсёды, ад бліскучых акцёраў.

Агнешка Карыткоўская-Мазур расказвае аб праекце:

— Мы хацелі б прыцягнуць да ўдзелу ў праекце трох акцёраў з вашага тэатра і трох з РТБД (...). Наш доўгатэрміновы праект дакладна ўпісваецца ў прыярытэтныя напрамкі супрацоўніцтва ў рамках Усходняга партнёрства...

Мікалай Пінігін:

— Сёння мы атрымалі грошы на рэалізацыю аднаго спектакля ў год. Такім чынам, мы будзем рыхтаваць толькі спектакль-канцэрт прымеркаваны да 70-й гадавіны заканчэння Другой сусветнай вайны, але нетыповы. Там будуць песні з розных франтоў гэтай вайны — таксама і амерыканскія, польскія, французскія, англійскія ці афрыканскія. Для сумеснага праекта мы не маем ніякіх грошай, хаця перашкод для заняцця акцёраў у гэтым праекце не бачу. Праблема можа быць у нашых драматургаў. Яны пішуць па-руску.

Агнешка Карыткоўская-Мазур кідае паўжартам:

— Дык можа пры нагодзе гэтага праекта пачнуць пісаць па-беларуску.

І цалкам сур’ёзна дадае:

— Можа якраз мова будзе галоўнай тэмай спектакля, які ў выніку нашай сумеснай працы паўстане да 2016 года. І наогул трэба шукаць такой мовы мастацтва, каб усюды яна была зразумелай. Давайце дамо месца для мастацтва, знойдзем, можа, новую мову тэатра, нашу агульную.

Мікалай Пінігін:

— Гэта праўда, але на нашым баку ў дачыненні да супрацоўніцтва, у прыватнасці, міжнароднага, ёсць праблема, больш фінансава-арганізацыйная, чым мастацкая.

Анатоль Вап:

— Нашым тэатрам лягчэй. Акрамя галоўных сцэн, яны ў распараджэнні мясцовых органаў улады, а тыя могуць вельмі шмат. У іх не толькі свой герб і сцяг, але і свой бюджэт. Прэзідэнт або парламент нічога не могуць ім навязаць.

Альжбета Шчапанская-Дамброўская заахвочвае пры нагодзе:

— Мы сёлета ў Польшчы адзначаем 250-годдзе публічнага тэатра (ад заснавання Нацыянальнага тэатра каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім — М. Х.). Такім чынам, ёсць дадатковыя грошы ў нашым Міністэрстве культуры на розныя тэатральныя праекты. Шкада, што Нацыянальны тэатр у Варшаве на прапанову супрацоўніцтва з тэатрам імя Янкі Купалы адказаў, што разглядзіць яе ў будучыні. Трэба прапанаваць удзел вашага тэатра ў найбліжэйшай варшаўскай сустрэчы нацыянальных тэатраў.

Анатоль Вап дадае:

— Наколькі я ведаю, дапамогу ў прыездзе тэатра імя Янкі Купалы ў Польшчу дэклараваў Эдуард Швайко, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі пры пасольстве РБ у Варшаве.

Я ўспамінаю словы Альжбеты Шчапанскай-Дамброўскай, якія да сустрэчы з дырэктарам Пінігіным прагучалі падчас пераможу ў Польскім інстытуце:

— Польскія тэатры прыязджаюць у Беларусь, але ўжо беларускія ў Польшчу амаль увогуле. Тэатр імя Янкі Купалы на зваротным шляху з Францыі з «Панам Тадэвушам», дзе ён быў па ініцыятыве тамашняга пасла Беларусі, былога міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі, меў яго паставіць у Варшаве, але гэта не атрымалася.

## Сустрэча з палкоўнікам дырэктарам

Гродна прывітала нас 11 лютага сонечным, злёгку марозным надвор’ем. На сустрэчу з дырэктарам тамашняга драматычнага тэатра, выконваючым гэтую функцыю з сакавіка 2012 г., спазняемся амаль паўгадзіны. Працягнулася нам зараз пасля прыбыцця з Мінска плённая і поўная канкрэтных спраў размова з консулам РП Анджэем Хадкевічам. Мы ведаем, што пунктуальнасць шануе дырэктар Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра Ігар Гедзіч, адстаўны палкоўнік-танкіст, выпускнік мінскай ваенна-інжынернай вышэйшай школы (1993) і каманднa-штабнога факультэта УА «Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь» (2004) «с отличием и золотой медалью», які раней працаваў у штабе Заходняга аператыўнага ка-

працяг ☞ 11

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# ЛЮБЛЮ НАЗЫВАЦЬ ПТУШАК ПА ІХ СПЕВЕ!

**Інтэрв'ю з Натталькай Алексяюк, лаўрэаткай Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют».**



«Зорка»: — *Наталька, Твае вершы напамінаюць беларускія песні? Ці любіш спяваць? Якая Твая ўлюбёная песня?*

**Наталля Алексяюк:** — Вельмі люблю спяваць. Я спяваю ад калыскі, ад заўсёды. Спеў — маё захапленне. У мяне няма нейкай улюбёнай песні, хоць найбольш падабаюцца мне беларускія песні і, асабліва, падабаюцца мне песні ў выкананні гурта «Прымакі».

З: — *Раскажы нам пра сябе? Якая ў Цябе сям'я? Што робіш у вольны час? Кім хочаш стаць у дарослым жыцці?*

НА: — Я — вучаніца пятага класа Пачатковай школы ў Міхалове. Вучуся таксама ў музычнай школе ў Беластоку, у класе акардэона. Апрача гэтага хаджу на вакальныя заняткі ў Гмінны асяродак культуры ў Міхалове, якія вядзе спадар Юры Астапчук (лідар гурта «Прымакі» — Зорка). У мяне малодшая сястра Оля, ёй сем годзікаў, яна — вучаніца першага класа. Мой брацік Міхась — дашкольнік, яму пяць гадоў. Мой тата — бацюшка. Мы жывем на плябаніі ў Тапалянах. На самой справе ў мяне няшмат вольнага часу — дзве школы і падрыхтоўка да заняткаў займаюць цэлы мой дзень. Аднак калі ў мяне свабодная хвіліна, тады гуляем з сястрой і братам, дапамагаю маме на кухні, хаджу на прагулкі і наведваю бабулю. Люблю спяваць і іграць на акардэоне. Мне больш падабаецца спяваць, чым іграць. А калі пра мары — на сённяшні дзень я хачу стаць спявачкай, хачу выступаць у класным гурце, або самой весці такі гурт.

З: — *Ці ёсць у Цябе такія месцы на прыродзе, дзе любіш думаць і адпачываць?*

НА: — Ёсць у мяне такое месца — гэта вёска Паўлы. Там жыве мая бабуля. Я вельмі люблю хадзіць з дзедкам у лес. Там вельмі ціха і прыгожа. Асабліва люблю назіраць як прабуджаецца да жыцця вясна. Я захапляюся цудоўным спевам птушак, часам гуляю ў адгаданкі — называю птушак па іх спеве. Такія хвіліны дапамагаюць мне адарвацца ад рэчаіснасці і перанесціся ў іншы свет, у якім побач сябе добрая цішыня, прыгожасць і мары. Такія месцы здымаюць з мяне стомленасць, даюць энергію. Я проста адпачываю.

З: — *Ці прырода дапамагае Табе ў жыцці?*

НА: — Яшчэ як! Прырода мае вельмі пазітыўны ўплыў на мае думкі і адчуванні. Яна адкрывае мяне на прыгожасць свету, дазваляе пабачыць поўны цыкл змен у прыродзе. Гэта ўсё дае сілу, лепшы настрой. Дзякуючы сяброўству з прыродай, я часцей усміхаюся.

З: — *Наталька, у Тваіх Тапалянах жыў калісьці беларускі паэт Хведар Ільяшэвіч. Ці гэтая асоба Табе вядомая?*

НА: — Гэта цікава, што тут раней жыў беларускі паэт. На жаль, я ніколі пра яго не чула. Магчыма таму, што ў Тапалянах жыву ад нядаўна, усяго чатыры гады, калі майго тату перавялі з парафіі ў Міхалове ў Тапаляны.

З: *Тады зычым, каб Ты папаўняла сваё веды і развівала мастацкія здольнасці. Каб надыходзячая вясна натхніла на новыя вершы і песні!*

Наталля АЛЕКСЯЮК, Тапаляны, ПШ у Міхалове

### Вясна

Вее, вее
Веснавы вецярок
Прыйдзі мой міленькі
Дам я табе піражок
Мёдам насычаны
З ласкай дзявочай
Прынясі цёплае летка
Малым дзеткам па кветачцы
Старым бабкам па кіёчку
Маладым па сярпочку.

### Восень

Ах восень, восень! Макрата!
Каляровых лісточкаў багата
Ужо і лісточак апаў
Дык зямлю накрыў.
Ой пара, ой пара!
Ляцець гусям з азёр.
Гусі, гусі каханыя!
Даўно вам у ключы трэба ляцець
На вясну зноў абавязкова прылятайце.
Гусі на крылах лета панеслі!
Зімачку на хвасце прынеслі!

### Беларуская

Сваёй гасціннасцю ўсім вядомая
Надзейныя сябры і дружбакі
І госць і падарожнік.
У нас як дома і тым багаты мы
Мне не сорамна, што я беларуская
У мяне шчасця больш чым у другіх
Мая краіна ў сярэдзіне мяне жыве
Беларусь! Родная Маці Ты мая!

## УВАГА КОНКУРС! № 10-15

## Загадкі з роднай хаткі

Як тая рэч завецца,
што цэлы год лічыць
і ніколі не саб'ецца?
(К.......)

Без языка жыве,
не есць,
не п'е,
а гаворыць.
(Р....)

Заліхвацкі вадавоз
Воз вады па небе вёз,
Гэтак грукацеў вядром,
І мы ўсе пазналі
(Г...)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 15 сакавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

Адказ на на загадкі 6-15: мядзведзь, кот, агуркі.

Узнагароды, кніжкі з беларускімі вершамі, выйгралі **Аляксандра Буслоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы і **Іаанна Нікіцюк** з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім, CD з фільмам пра Віктара Шведа — **Мая Грыц** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Карнелія Порац** з Нарвы і **Беата Зенцік** з Міхалова. Віншуем!

(Вынікі жараб'ёўкі вы можаце пабачыць ужо ў сераду на фейсбуку на сайце Сустрэч «Зоркі».)

# КАЗЁЛ І ЛІСКА

*(руская казка)*

Бегла лісіца. Заглядзелася на варону і ўпала ў калодзеж. Студня была глыбокая, аднак у ёй было нямнога вады. Сядзіць ліска і думае як адтуль выкараскацца.

Тым часам дарогай ішоў казёл. Паглядзеў ён у калодзеж і ўбачыў лісу.

— Што ты, кума, там робіш?

— Адпачываю, мілы, — адказала ліска. — Там на гары жара, а тут халадок, надта прыемна. Калі хочаш, прысядзь са мной!

— А вада там смачная?

— Чыстая, халодная, смачная! Пі колькі захочаш! Запрашаю ў сярэдзіну!

Скочыў казёл у калодзеж, а ліса толькі таго чакала. Яна ўскочыла яму на спіну, са спіны на галаву, а з галавы ажно наверх, на зямлю.

— Бывай, куме! — крыкнула яна на развітанне. — Будзь здаровы!

Доўга сядзеў казёл у калодзежы. Пасля ўбачылі яго людзі і выцягнулі з пасткі. Ліса дала яму добры ўрок. Казёл зараз ведае, што нельга давяраць лісіцы.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# „Званкі” на сцэне

Фотаздымак са спектакля ў выкананні тэатральнай дзіцячай групы „Званкі” Гайнаўскага дома культуры. Працуе ён пад кіраўніцтвам Веры Масайлы. Самадзейнікі 20 лютага г. г. на сцэне Гміннага асяродка культуры ў Дубінах выступілі з п'есай пра каханне. Юныя акцёры выступілі ў адмысловых касцюмах. Усім прысутным на вечарыне спектакль спадабаўся.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# «Валянцінкі» ў Нараўцы

*У нашай школе ў Нараўцы мы сарганізавалі «Валянцінкі». Ранейпаставілі на калідоры каляровую скрынку, у якую вучні кідалі паштоўкі да сваіх сімпатый і сяброў. Выбраныя пісьманосцы разносілі лісты. У час, калі мы адкрывалі канверт, было многа радасці. Гэта была вельмі прыемная хвіліна. Пасля ўрокаў у нас адбылася дыскатэка. Школьная актавая зала была прыаздоблена каляровымі шарыкамі. Наш дыджэй пускаў беларускую музыку і таму ўсе добра гулялі. На дыскатэку прыйшло многа моладзі. У час забавы было шмат конкурсаў. Нашыя «Валянцінкі» былі супер! А як было ў вас?*

***Уля Марчук і Магда Бяляўская – I клас Гімназіі ў Нараўцы***

# МОДА НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ



Малюнак Госі Пархвянюк і Магды Панасюк



# Вершы Віктара Шведа

## Балбатуха

— Вашая харашуха,
Дачушка Марыёля,
Страшная балбатуха
На занятках у школе.

— Запрашаем таксама
Паслухаць яе маму.
Балбатуха такая —
Што зусім не змаўкае.

## Водпуск

Сын бацьку азадачыў:
— Што слова водпуск
значыць?
— Гэта, даражэнькі сыну,
Працы ў шэфа перапынак.

Ды гэта ўжо не значыць,
Што будзем жыць без працы.
Пяройдзем на заняткі
У нашай роднай маткі.

## Папярэджанне

Тату просіць Лёня:
— Не шукай прыгод
Не ідзі ты сёння
На бацькоўскі сход.

— Штосьці неўпарадку
У школе, сыну мой?
— Не, дарагі татка,
Пасварацца з табой.

## Друшляк

Запыталася Агата
Унучка Марціна:
— Хто вынес друшляк
з хаты? —
Патрэбны мне няспынна.

— Выкінуў яго ў смецце —
Сказаў унучак шчыра. —
Гэта меў на прыкмеце:
У ім поўна дзірак.

# Польска-беларуская крыжаванка

№ 10-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6:**

Абарона, тыгр, рыс, сустрэча, апарат, пакуса, ар, каптур, кола, хто. Сто, сапло, група, рысак, струк, раса, этап, нумар, ух, ар, гумар.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Юлія Шкляжэўская**, **Карнелія Порац** з Нарвы, **Радэк Ліхань** з Міхалова, **Вераніка Кардзюкевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Маглгажата Галёнка** з Арэшкава, **Іаанна Нікіцюк**, **Юлія Календа**, **Мальвіна Маркевіч** КШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Магда Пташынская**, **Алек Чарнецкі** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rekin | Zawiniątko | Ali / Anna | | | | | Wiatrak | | Żyła / To |
| | | | | | Świat / Cukier | | | | |
| Puch | | Chór | | Lipa | | As / Ono | | | |
| | | | Kromka / Sad | | | | | | Kot |
| Nosek | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| Żółw | | Dar | | | | Wieloryb | | | |

# Надзеі няма на фейсбуку :-)

**Надзея Артымовіч** не мае фейсбука і не сядзіць у інтэрнэце. Але ёсць яе словы і кнігі.

— Слова, напісанае пяром, не вырубаеш тапаром, — адзначае паэтэса з Бельска, якой дзень нараджэння 18 лютага адзначылі карыстальнікі сеціва, якіх імён аўтарка і не ведае. Ціхан Чэрнякевіч, родам з Пінска, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Культура» (сайт: www.kimpress.by), з якім у мяне 177 агульных сяброў, выслаў з Вільні:

«Сёння — дзень нараджэння Надзеі Артымовіч. Яе няма ў фейсбуку». І прывёў словы з яе эсэ пра паэзію. «Паэзія — гэта падарожжа. У глыб сябе. Пяро паэта — скальпель, які спрабуе дакладна зняць першую скуру паэта. Але ніводзін скальпель не з'яўляецца дасканалай прыладай. Гладкая скура з цяжкасцю паддаецца зняццю. Даходзіць часам да цяжкіх калецтваў, парэзаў і ран, якія вельмі марудна гояцца. Ніякіх лекаў ты не можаш ужыць, таму што калецтвы павінны прывесці да самавыздараўлення. Але працэс самавыздараўлення часта ачышчае скуру паэта ад паэзіятворчых бактэрый.

Паэзія — гэта вольнасць. Паэзія нараджаецца ў самотнасці. Паэзія — гэта ўцёкі ад самотнасці і адначасна доўгае падарожжа да самотнасці. Кожная самотнасць вялікая.

Паэзія — музыка з дакладнай партытуры. Часта стаўлю сабе пытанне — ці не фальшую ўласную партытуру, што ўпісана ўва мне. Ці пераказваю хоць бы асноўныя ноты гэтай партытуры?

Сапраўдная паэзія — інтэлектуальная (і не толькі) інтэлектуальная правакацыя. Правакуе прыгожае. Чаму так мала людзей цягнецца да вершаў? Чалавек не любіць быць справакаваным. Сапраўдная паэзія (мастацтва) змушае чытача да адмаўлення ад беззаганнага самавобраза, заснаванага на гэтак званай жыццёвай філасофіі. Таму, напрыклад, творы Роберта Музіля ставяць чытача ў вельмі складаныя і нязручныя сітуацыі.

Сапраўдны паэт павінен быць вельмі моцна ўключаны ў чалавечую какафонію, але адначасна павінен стаяць па-за рэчаіснасцю.

Паэзія — гэта музыка, гэта прыгожае. Яна называе, замацоўвае свой час. А гэта і ёсць прыгожае.У творчасці паэта ёсць адзін важны верш. Усе астатнія вершы з'яўляюцца фонам, ценем, у якім паэт схаваны. Не заўсёды творца ўсведамляе значэнне тых схованак.

Сапраўдная паэзія — гармонія. Гармонія, дасканаласць. І таму так цяжка паддаецца аналізу і ці гэта магчымае? На якім слове пачынаецца верш, на якім слове верш сканчваецца? Пра гэта ведае толькі паэт (аўтар). Але гэта не выключае іншых варыянтаў прачытання вершаў чытачамі. Аўтарскія лагічныя акцэнты ў вершы глыбока прыхаваны.

Напісанне аўтарам гэтак званай творчай біяграфіі дае няшмат або нічога не дае для высвятлення найважнейшых аспектаў яго творчасці. У гэтым пытанні нічога нельга растлумачыць, высветліць.

У сваёй паэзіі спрабую пераказаць уласную іерархію вартасцяў, не заўсёды наўпрост. Імкнуся гэта зрабіць празрыстым, ясным, простым спосабам.

Паэзія не толькі тое, што напісана. Жыццё таксама бывае паэзіяй...».

Надзеі няма на фейсбуку, і не можа адказаць «лайкам» ці «каментам», але пачула і сказала мне адпісаць: «Надзея Артымовіч пачула і з радасцю пераказвае Вам сардэчныя прывітанні! Беларускі свет чытае беларускую паэзію!» Падняліся лапкі «лайкаў» — «люблю» — ад Алеся Аркуша, Паліны Сцепаненкі, Валярыны Куставай, Юліі Цімафеевай, Людмілы Рыжанковай, Янкі Масцюміка з-пад Прагі, Альгерда Бахарэвіча, Андрэя Хадановіча, Сяргея Смятрычэнкі, Паўла Капанскага, Уладзіміра Лянкевіча, Сабіны Брыло, Анжэлы Мельнікавай, Ігара Чэрнякевіча, Андрэя Антонава, Канстанціна Касяка, Лідзіі Наліўка, Андрэя Смыкоўскага, Юліі Мацук, Наталлі Бондар... Мінск, Варшава, Беласток, Вільня, Прага, Брно...

— Гэтыя людзі, калі і не мелі дотыку да маёй паэзіі, адчулі маю індывідуальнасць, душу, — кажа Надзея Артымовіч, 45-годдзе дэбюту якой будзем адзначаць 4 красавіка.

— Што магло б лепшае сустрэць мяне апрача кветак...

Міра ЛУКША

# Вучням падабаецца «Беларуская гавэнда»

**XVI выпуск Конкурсу «Беларуская гавэнда», які 20 лютага адбыўся ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, пацвердзіў, што ёсць ахвотныя распавядаць па-беларуску і робяць гэта ўдала. Удзельнікі конкурсу задаволеныя, што могуць такім чынам праявіць свае акцёрскія здольнасці. Рады яны таксама купленым за сродкі спонсараў цікавым узнагародам.**



Юлія Ахрымюк



Ніна Марціновіч




Магдалена Гаўрылюк і Наталля Дзмітрук (злева)

Беларускі конкурс расказчыкаў адкрыў настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі, ініцыятар і галоўны арганізатар конкурсу. Падтрымліваюць яго дырэкцыя, настаўнікі і вучні Гайнаўскага белліцэя. Янка Карчэўскі пахваліў настаўнікаў беларускай мовы з розных школ, апекуноў маладых расказчыкаў і саміх вучняў, а таксама прывітаў запрошаных гасцей. Мерапрыемства ўдастоілі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, намесніца дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Юлія Рубіна, дырэктар Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы Віялета Янушкевіч і дырэктар Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко.

— Родная беларуская мова з'яўляецца перш за ўсё моваў тоеснасці. Выступаючы на ёй падчас конкурсу «Беларуская гавэнда», вы падтрымліваеце сваю мову. Сам конкурс важны і патрэбны і мы яго падтрымліваем, — заявіў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, звяртаючыся да навучэнцаў беларускай мовы.

Спонсарамі конкурсу выступілі Гайнаўская гарадская ўправа, Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве і Інтэрнэт-бібліятэка «kamunikat.org».

Конкурс расказчыкаў — добрая нагода, каб паказаць гайнаўскія белліцэй і белгімназію ў якасці месца будучай вучобы для малодшых расказчыкаў і іх сяброў. На адукацыю ў збудаваным ад асноў у дзевяностых гадах вялікім і прыгожым школьным будынку і гімнастычнай зале запрашаў дырэктар Яўген Сачко. Вучні маглі самі пераканацца, што ў Гайнаўскім белліцэі добрая атмасфера. Пасля конкурснай часткі, у якой у гэтым годзе прынялі ўдзел таксама навучэнцы беларускай мовы з Міхалоўскай гміны, вучні паглядзелі выступленне белліцэйскай «Знічкі», якая праспявала прыгожыя беларускія песні. У школьнай сталовай удзельнікі конкурсу падмацаваліся абедам.

— Арганізуючы конкурс, мы дзейнічаем у напрамку захавання беларускай мовы. Я ў гэтым годзе запрапанаваў вучням з Міхалоўскай гміны прыняць удзел у конкурсе і рады, што яны так удала выступілі. Цешыць таксама, што рашыліся расказваць у нас вучні з Белавежы, якія вывучаюць беларускай мове. Можа ў будучыні пашырым тэрыторыю, з якой будуць прыязджаць да нас удзельнікі конкурсу, — сказаў настаўнік Янка Карчэўскі.

Гайнаўскія белліцэісткі Магдалена Гаўрылюк і Наталля Дзмітрук выступілі займальна з расказам «Гандзя і Маня» і перамаглі ў катэгорыі звышгімназічных школ. Яны выкарыстолі свой вопыт, бо раней таксама распавядалі і атрымлівалі прызы на конкурсе расказчыкаў.

— Нам падабаецца конкурс «Беларуская гавэнда». Наш настаўнік Янка Карчэўскі прапанаваў нам цікавы тэкст. Думаем, што ён спадабаецца публіцы, — сказалі яшчэ да выступу Магдалена Гаўрылюк і Наталля Дзмітрук.

Аповеды на конкурс вучні рыхтуюць з дапамогай настаўнікаў беларускай мовы. Але здаралася, што вучні самастойна рыхтаваліся да выступленняў або з дапамогай іншых асоб. Іх поспехі ў вялікай ступені залежаць ад акцёрскіх здольнасцей. Здараецца, што некаторыя вучні перамагаюць па некалькі разоў, так як згаданыя белліцэісткі.

— Вучні любяць конкурс расказчыкаў, але лічаць яго цяжкім. Падрыхтавацца да конкурсу «Беларуская гавэнда» складана, але можна на ім праявіць многа ўмеласцей. Для вучняў і іх настаўнікаў ад конкурсу застаецца цікавы досвед, — сказала старшыня журы, метадыст па навучанні беларускай мовы і заадно настаўніца белліцэя Іаланта Грыгарук.

Конкурс удала вялі белліцэістка Дарота Артышук і настаўнік Янка Карчэўскі.

— Узровень расказаў вучняў — высокі. Чуем тут цікавыя, доўгія аповеды. Відаць, што настаўнікі мусілі таксама напрацавацца, рыхтуючы вучняў да конкурсу. Цешыць таксама, што паявіліся вучні з Міхалова і Белавежы, — гаварыла іншая член журы, настаўніца-бібліятэкарка Ірэна Ігнатовіч.

Сярод гімназістаў першыя месцы занялі Крыстыян Паскробка з Нарвы і Наталля Васько з Нараўкі.

— Мне залежала, каб расказваць цікава, з гумарам. Выступіць прапанавала мне настаўніца Ніна Абрамюк. Я распавядаў пра маладзіцу ў гарохавай спадніцы і быў задаволены, калі змог выклікаць смех у публікі, — заявіў Крыстыян Паскробка, які свой расказ суправаджаў актыўнай жэстыкуляцыяй. Пераапрануўся ён у стылізаваную на вясковы манер вопратку, што зрабілі таксама іншыя выступоўцы.

— Агата Астапчук выступае ўпершыню. Трэба было яе вучыць ад асноў. Слухаючы іншых выступоўцаў, яна таксама вучыцца новаму. Крыстыян Паскробка — наша зорка. Ён ужо перама-



Крыстыян Паскробка



Наталля Васько

гаў на конкурсах «Беларуская гавэнда» і «Роднае слова» і сам ведае як расказваць і весці сябе перад публікай. Аднак трэба правяраць расказчыкаў, каб усе навучыліся правільна вымаўляць больш складаныя словы і правільна ставіць націскі, — гаварыла настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк з Нарвы.

— Я расказвала як бландзінка збіраецца пайсці ў армію. Я люблю расказваць смешныя гісторыі. Настаўніца запрапанавала мне выступіць з жартоўным расказам. Думаю, што я ўдала справілася з аповедам пра дзяўчыну ў арміі, — заявіла Наталля Васько адразу пасля выступу.

Другія месцы сярод гімназістаў занялі Валерыя Люляк з Міхалова і Анна Бляўская з Нараўкі. На трэціх месцах апынуліся Кацярына Мучко, якая выступала разам з Паўлінай Лаўнічук, і Іаанна Лукша — усе з Нараўкі.

— Беларускай літаратурнай мове я вучуся трэці год. Раней я дэкламавала па-беларуску, а цяпер рашылася расказваць. Цікава мне было пабачыць як праходзіць конкурс расказчыкаў, — гаварыла Валерыя Люляк з Міхалова. Настаўніца беларускай мовы Эмілія Грыка была рада, што міхалоўскія вучні атрымалі запрашэнне выступіць у Гайнаўцы.

— Вельмі важнае, каб падабраць адпаведны для вучняў тэкст. Пасля трэба ім падказаць як выкарыстаць здольнасці і ўмеласці падчас расказаў. У нас многа вучняў прыступае да конкурсу «Беларуская гавэнда». Хочуць яны паспрабаваць сіл, выступаючы перад вялікай публікай. Залежыць ім таксама, каб атрымаць вышэйшыя ацэнкі на пасведчанні, — заявіла настаўніца беларускай мовы са школы ў Нараўцы Анна Кандрацюк.

Настаўніца беларускай мовы ў гайнаўскай «шасцёрцы» Беата Кендысь пахваліла выступленне Барташа Яканюка, які з прадшколля ўдала выступае і перамагае на конкурсах.

У катэгорыі вучняў падставовых школ першыя месцы занялі Юлія Ахрымюк з Падставовай школы ў Чыжах і Ніна Марціновіч з ПШ у Нараўцы.

— Я другі раз выступіла падчас конкурсу «Беларуская гавэнда». Цікава было мне расказваць пра мышку Пік-Пік. Тэму расказу прапанавала мне настаўніца беларускай мовы Валянціна Андрасюк, — заявіла Юлія Ахрымюк.

Другія месцы занялі Барташ Яканюк з ПШ № 6 у Гайнаўцы і Карнелія Порац з ПШ у Нарве. На трэцім месцы апынуўся Тамаш Харкевіч з ПШ у Нараўцы.

— Я люблю дэкламаваць, расказваць і таму часта прымаю ўдзел у конкурсах, — гаварыў Барташ Яканюк.

— «Конкурс беларускай гавэнды» гэта цяжкі конкурс. Вучням трэба навучыцца расказваць доўгія тэксты. Для дзетак з падставовай школы гэта асаблівы выклік, — сказала Анджаліна Масальская, настаўніца беларускай мовы з Белавежы, адкуль цікава запрэзентаваліся дзве вучаніцы.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Вучні Гімназіі ў Дуброве-Беластоцкай хочуць размаўляць „па-просту”. Беларускі дыялект, якім карыстаюцца жыхары Дуброўшчыны, знайшоў сваіх наймалодшых даследчыкаў.


Фота Мажэны Каліноўскай
■ Даследчыцы „простай мовы”

# „Простая мова” выходзіць з падполля

Зацікаўленне гаворкай узнікла, калі школа ўключылася ў праект „Дыялог пакаленняў”, ладжаны Нацыянальным цэнтрам культуры і Таварыствам культуры мовы. Падвядзенне вынікаў праекта адбудзецца 15 траўня гэтага года, аднак гімназісты не хочуць толькі на гэтым спыніцца, бо зразумелі, што „простая мова” — варта глыбейшага пазнання. Як сказала адна з іх: „Папросту варта размаўляць па-просту”.

Мінулі ці не дзесяціґоддзі з часу, калі на Сакольшчыне самі карыстальнікі мясцовай гаворкі не саромеюцца размаўляць „па-просту”, нягледзячы на абставіны, у якіх апынуліся. Тут можна пералічыць два тыпы „сакольскага” беларуса, які, пакідаючы сваё аўтахтоннае асяроддзе, быў прымушаны неяк даваць сабе рады ў іншых культурных абставінах. Першы быў свядомы вартасці сваёй мовы, карыстаўся ёю ў спосаб нават дэманстратыўны. Тут трэба адзначыць, што сакольская зямля нараджала такіх сыноў, як бы пафасна гэта не гучала, як Язэп Варонка, Уладыслаў Чаржынскі, Дамінік Аніська, Адам Бычкоўскі і многія іншыя, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё інтэлектуальнага патэнцыялу беларускай нацыі. Другі тып беларуса Сакольшчыны, больш распаўсюджаны, такі, якому беларуская мова з'яўляецца роднай, але ўсе яго намаганні накіраваныя на тое, каб у кантакце з „гарадскімі” ці, не дай Божа, з палякамі з-за этнічнай мяжы, не дазволіць выпусціць з вуснаў ніводнага беларускага слова.

— Кожны стараўся як мог, каб не зславілі. Польскі язык і ўсё, — успамінае спадар Дубіла з Шушалева, — а і так, усё роўна нас пазнавалі па акцэнце.

Спадару Дубілу ў час вайсковай службы ў Шчэціне давялося шараваць вагоны за той няшчасны ўсходні акцэнт. Але, як кожны ведае з гісторыі, гэта яшчэ не найгоршае ў параўнанні з тым, як праследавалі свядомых беларусаў. Сёння найбольш балючым з'яўляецца тое, што, маючы спрыяльныя ўмовы з боку дзяржавы, не можам поўнасцю іх выкарыстаць дзеля паглыблення ведаў пра культурную спадчыну. Аб той клапатлівай сітуацыі, у якой апынулася беларускае падляшскае асяроддзе, спяваў у свой час гурт „RF Braha”:

Не за дротам, а ў цёплых кватэрах
жыве народ з дня ў дзень
І не народ, не нацыя, а натоўп,
як жывёла без імя.

Аднак „простую мову” пачалі даследаваць вучні і настаўнікі Гімназіі ў Дуброве-Беластоцкай. У рамках праекта „Дыялог пакаленняў” маладыя людзі зацікавіліся дыялектам Дуброўшчыны. Вучні размаўляюць са старэйшымі жыхарамі гміны з мэтай сабраць моўны матэрыял, які адлюстроўваў бы спецыфіку рэгіянальнай лексікі. Гімназія ў Дуброве-Беластоцкай — адна з дзвюх падляшскіх школ, якія прымаюць удзел у праекце, і адна з ліку сямі, якая даследуе беларускую гаворку.

Моўны матэрыял вучні збіраюць у прыбаброўскіх вёсках Шушалева, Ялова, Крапіўна. Якраз Крапіўна з'яўляецца роднай вёскай дырэктара дуброўскага комплексу школ, віцэ-старасты Сакольскага павета Юры Беламызага.

— Пакуль я пайшоў у пачатковую школу, я не ведаў, што існуе іншая мова, чым простая. Я вывучыў польскую мову так, як іншыя мае сябры. Помню, як настаўніца спыталася як на польскай мове гучыць слова „скаварда”. Ніхто не ведаў.

Хаця магло б здавацца, што настаўнікаў са школы ў Дуброве пячэ слова „беларуская” ў дачыненні да мовы, каардынатарка праекта Мажэна Каліноўская тлумачыць гэтую адмоўную з'яву недахопам ведаў пра гісторыю і культуру рэгіёна:

— Ніхто ніколі не сказаў, што гэта беларуская мова. Ад пакаленняў людзі называлі яе простай, сваёй, вясковай... Адукаваныя людзі гэтую мову разумеюць, цяпер разумеюць і дзеці.

Нягледзячы на тое як цяжка пераходзіць праз вусны беларускае слова, што з'яўляецца вынікам траўм папярэдняга пакалення, вучні дзякуючы такім праектам бліжэй пазнаюць гаворку і ўласную культурную тоеснасць.

— Думаю, што я навучылася многа слоў і памянялася маё стаўленне да нашай мовы, — кажа ўдзельніца праекта Дамініка Хадзютка. — Калісьці, як бабуля гаварыла папросту, я звяртала ёй увагу, каб размаўляла па-польску. Цяпер разумею, што гэтая мова — важная.

Магчыма, на здымку энтузіязму ў дзяўчат не відаць, але іх выказванні і запісы гутарак са старэйшымі жыхарамі паддуброўскіх вёсак сведчаць аб тым, што васьмідзесяцігадовы дзядуля можа быць партнёрам для цікавых размоў і смешных жартаў, нават для гімназістак.

Дырэктар комплексу школ у Дуброве-Беластоцкай Юры Беламызы ўжо раз выявіў сваю цікавасць да сакольскага дыялекту, арганізуючы канферэнцыю на яго тэму. Яе вынікі не вельмі цікавыя, з навуковага пункту гледжання зусім бескарысныя. Аднак пошукі не спыняюцца. Як ацэньвае сам Беламызы, ідуць яны ўшторaз лепшым напрамку. Спробы дыскусіі і задумы над энігматычнай мовай Юры Беламызы лічыць доўгам перад роднай зямлёй:

— „Простая мова” — гэта не нейкая там мяшанка. Гэта дыялект незалежнай, самастойнай мовы, не расейскай, і не польскай. А для нас ён мусіць быць больш вартым, чым усе іншыя. Бо ён наш, бо на ім размаўляюць нашы дзяды і бацькі.

**Уршуля ШУБЗДА**

# ЦУД і ПРАПАГАНДА

Нядаўна, цягам чэрвеня і ліпеня мінулага года, на старонках «Нівы» быў апублікаваны мой рэпартаж «Без долі на канцы свету». Гераіня, Лідзія Назарук, з прыкардоннага хутара Бобенка, успамінае трагічную гісторыю часоў апошняй вайны. Яе пушчанская вёска цудам ацалела ад знішчэння, а яе жыхары — ад смерці. Фашысты сагналі вяскоўцаў на край свежавырытай ямы і ўсіх, дарослых ды малых, збіраліся пастраляць. Перад тым зачыталі прыгавор, вінавацілі іх у падтрымцы савецкай партызанкі. Расстрэл папярэдзіла жахлівая экзекуцыя — немцы застрэлілі ў вёсцы пяцёра дзетак ды іх бацькоў. Аднак іншых жыхароў — у што свята верыла мая гераіня — выратаваў цуд.

У час працы над рэпартажам у мяне было шмат сумненняў. У пэўны момант я стаўлю канкрэтныя пытанні:

— Хто быў той правакатар, які з'явіўся ў Бобенку ў часы нацысцкага ліхалецця? Ці ён быў немец, украінец, рускі, паляк? А можа свой, туземец з наваколля, апантаны прагай помсты на нейкім ворагу з вёскі? Чаму сваю інтрыгу разыграў такім прымітыўным спосабам? Думаеш і пачынаеш сумнявацца: ці сапраўдная пацыфікацыя вёскі нарадзілася ў адной хворай галаве? Усё выглядала так, быццам заранёў нехта запланаваў жахлівае гульбішча коштам безабаронных працаўнікоў...



У час жахлівага здарэння Лідзіі Назарук было пяць гадоў, шмат дэталяў зацерлася ў яе памяці. Ды ніхто з вёскі не ведаў прозвішча «добрага немца», які прылецеў на самалёце ў апошні момант і загадаў адмяніць крывавы прысуд. Пасля, як успамінала мая гераіня, удзячныя вяскоўцы ездзілі ў свой прыход у Амелянец, каб закупіць малебен за свайго збаўцу...

У прынцыпе заўсёды давяраю памяці сваіх герояў, аднак іх пераказ і высновы не заўсёды аказваюцца апошняй праўдай. Тут важны пошук, рэфлексія чытача.

Мой пошук спрацаваў у вельмі канкрэтны спосаб. Нядаўна я трапіла на блізнячую гісторыю ў «Беларускай глыбіні» Паўла Севярынца. Ён, у сваю чаргу, піша пра «Ражкоўскі цуд», які здарыўся 18 верасня 1942 года. Вёска Ражкоўка, як і Бобенка, распаложана ў нетрах Белавежскай пушчы. Праўдападобна два здарэнні адбыліся ў тым самым часе, усё выглядае як адна запланаваная прапагандысцкая акцыя з мэтай запалохаць пушчанскіх людзей. У Ражкоўцы, як і ў Бобенцы, мужчынам загадалі капаць яму — тут Севярынец падае дэталі — у два метры глыбіні, чатыры метры шырыні і дваццаць чатыры метры даўжыні...

Ражкоўцы стаялі на краі ямы. Плакалі. Маўчалі. Маліліся...

І раптам, як у той жа Бобенцы, з нябёс апусціўся нямецкі самалёт. А з самалёта вылез афіцэр, падышоў да зондэркаманды, прад'явіў там свае дакументы і загадаў адмяніць загад. Вяскоўцам даравалі жыццё. Афіцэрам-цудатворцам аказаўся егер Герынга, адкамандзіраваны для ўзорнай паляўнічай гаспадаркі Рэйха ў Белавежскай пушчы. Праз два тыдні гэты афіцэр вярнуўся ў Ражкоўку. І прывёз з сабой выразаную з дрэва выяву Мадонны, расфарбаваную сінім, чырвоным і залатым, з Дзіцём у белым. Скульптуру, быццам на замову немца, зрабіў паранены жаўнер вермахта, які ляжаў у шпіталі. Немец меў пабачыць тую Божую Маці на небе, калі ляцеў у Ражкоўку. Мадонна паказала на зямлю і прымусіла яго прызямліцца ля рова, дзе меў здзейсніцца расстрэл.

Удзячныя жыхары Ражкоўкі пабудавалі ў вёсцы царкву, каб памясціць там нeкананічную выяву Мадонны, падараваную добрым немцам. На фігурцы захавалася дата здзейсненага цуду: 28.9.1942. У наваколлі, згодна з логікай здарэнняў, зрадзіўся культ Ражкоўскай Божай Маці. На нашым баку пушчы, больш чым пра культ Ражкоўскай Багамаці, захавалася памяць пра роў, дзе фашысты мелі пастраляць людзей з Бобенкі. Падоўжаны, адкрыты роў існуе ў той жа Ражкоўцы. Яго пакінулі невыпадкова — ён меў напамінаць простаму люду пра кару, якая чакае за непаслухмянасць. Гэты, здавалася б архаічны, запавет сёння зноў пачынае прамаўляць голасам ваеннай прапаганды.

Дарэчы, добрую хрысціянскую кніжку «Беларуская глыбіня» Паўла Севярынца рэкамендую на перыяд Вялікага посту.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**



facebook.com/SiarhiejPrylucki

# (Не)абавязковыя аўтары

частка 2

„Смешныя гісторыі расказаныя дурным голасам гэта лепей чым хлусня агучаная сур'ёзнымі і дзяржаўнымі галасамі. Хто не верыць, хай пачытае «Дэгенератыўны слоўнік» Пістончыка" — такую параду дае мастадонт беларускага літаратурнага авангарда Адам Глобус. Сярожка Пістончык (альтэр-эга народжанага ў 1980 годзе ў Берасці Сяргея Прылуцкага) напісаў свой слоўнік, які, аднак, цалкам розны ад іншых лексікаграфічных публікацый. Мова «Дэгенератыўнага...» байдай што не мае ніводнага свайго афіцыйнага, нарматыўнага слоўніка. Пістончык піша на трасянцы, можа не надта зразумелай для падляшскага чытача, тым не менш варта зазірнуць туды і пазнаёміцца з мовай, на якой размаўляюць многія жыхары Беларусі, у тым ліку Самы Галоўны Грамадзянін. Хоць сам Прылуцкі жыве цяпер у Кіеве, уважліва сочыць за тэндэнцыямі на радзіме.

Сяргея Прылуцкага ў фейсбуку можна апазнаць па нестандартных профільных выявах (актуальная аватарка — Лукашэнка з зялёнай афра-прычоскай). У біяграфіях Сярожкі Пістончыка пішуць: «Казачнік-хуліган, вандроўнік і фантазёр. Аматар алкаголю і іншых штучных стымулятараў. Удзельнік шматлікіх фестываляў і сумнеўных кампаній». Палічыўшы, што інтрыга пайшла, на гэтым і спынім энцыклапедычную даведку — дайма выказацца паэту:

Мне надакучыла даўно
чуць гэтае занудства:
што чым старэйшы чалавек,
тым разумнейшы. Глупства!

Навошта хлусіць і ўцякаць
ад непрывабнай праўды:
што чым старэйшы чалавек,
тым больш ён дурнаваты? (...)

**(„Тэст на розум")**

Сімпатыя Прылуцкага да маладога пакалення выяўляецца таксама ў вялікай колькасці вершаў для дзяцей. Ці — дзіцячых вершаў для дарослых. Лёгкія па форме і змесце, нясуць таксама ўскосны пасыл старэйшым:

Потым я напіўся квасу,
з'еў пірожных ананасных,
два жэле квадратнай формы,
ледзянец (за сёння сёмы),
аблізаў старанна пальцы
і адправіўся катацца.
(...)
Пакруціўся на „Сюрпрызе"
(жжых — ты ўверсе, жжых — ты ўнізе!)
Ужо на горках чую — муціць.
Стаў зялёным — на батуце.
А на каруселі „Вецер"
забляваў усё на свеце.
Нібы дождж, бацькам і дзеткам,
каляровым феерверкам
на штаны і на манжэты
льюцца ўсе мае дэсерты.
Мама паглядзела суха
і скруціла моцна вуха.
Тата ж толькі ўсміхнуўся
і са мной пераглянуўся.
Бо ў мінулую нядзелю
сам, схадзіўшы на вяселле,
сярод ночы на дыван
з рота выпусціў фантан.

**(„Феерверк")**

Зноў жа — сучасная мова, адсутнасць лішняга пафасу. Зноў жа — дарма шукаць ягоных твораў у школьных падручніках і хрэстаматыях. Затое хопіць ноўтбук ці смартфон з доступам да інтэрнэту і можам чытаць блог Прылуцкага (**http://pistonczyk.livejournal.com**) ці глядзець і слухаць, як чытае свае творы ў праекце «Чорна-белыя вершы» (у **Youtube**). Пра цікавае і важнае Пістончык піша нармальным голасам:

Ты памрэш, малы, далёка не ў Парыжы, —
бо, на шчасце, не прарок і не герой, —
а ў звычайным Светлагорску ці Нясвіжы,
праклінаючы жыццёвы гемарой.

**(„Пасланне да маладога Вертэра")**

Хоць некалькі ягоных зборнікаў выйшлі друкам, а ўсё астатняе і самае свежае даступнае ў сеціве, у кніжным бізнесе шанцуе Сяргею Прылуцкаму прыкладна як і ў спорце. Аднойчы паэт прымаў удзел у міжнацыянальным футбольным матчы ў Варшаве. Літаральна ў першыя хвіліны атрымаў мячом удар па руцэ і сышоў з поля з пераломам. «Карочэ, дзіцячыя мае вершы нідзе не выходзяць. Няма ў нашых выдаўцоў ані любові, ані надзеі, веры ў аўтараў. Яны вечна нечым занятыя, маюць планы распісаныя на 100500 гадоў наперад, або наогул не адказваюць на лісты. Отака х***я, малята, хлопчыкі і дзяўчата» — паскардзіўся аднойчы «Пістон» у жывым журнале. А шкада, бо выданне вартыя і дзіцячыя вершы, і дэгенератыўная проза Прылуцкага. І, зразумела, пераклады. Напрыклад, вершы класікаў — Віславы Шымборскай і Тадэвуша Ружэвіча, але і Анджэя Бурсы ці Яцка Падсядлы кладуцца на беларускую мову надзвычай файна. Можа параіць Прылуцкаму папрасіцца ў «Белавежу», каб ягоныя кніжкі выйшлі хутка і прыстойным тыражом? І, нарэшце, з'явіліся ў падручніку для ліцэя...

**Ганна МОРДАНЬ**




# http://mcdonalds.by

У лютым у Байнэце адбылася для многіх незаўважная, але цікавая і прыемная падзея. Справа ў тым, што сусветна вядомая сетка рэстаранаў хуткага харчавання **McDonald's** пачала размаўляць па-беларуску. Не мінула нават і чвэрці стагоддзя з моманту з'яўлення на карце свету незалежнай беларускай дзяржавы! Але калі без кпін, то гэтая падзея вартая, каб засяродзіць на ёй увагу, толькі адной акалічнасцю — беларуская версія сайта **McDonald's** у Беларусі з'явілася, дзякуючы намаганням руплівцам на ніве папулярызацыі беларускай мовы — курсаў „Мова нанова".

„Дзякуючы руплівай працы перакладчыкаў „Мовы Нанова" наведвальнікі **http://mcdonalds.by** цяпер могуць больш даведацца пра ўлюбёныя стравы МакДональдс і цікавосткі нашай кампаніі, а таксама замовіць дзень нараджэння дзяцей у рэстаранах МакДональдс па-беларуску. Шчыра зычым поспехаў праекту „Мова Нанова" і ягоным удзельнікам!" — напісалі камерсанты ў сваім лісце да грамадскіх курсаў, натхняльнікі якой 23 лютага выклалі яго на сваім сайце.

Пры гэтым „мовананоўцы" адзначаюць, што пераклад старонак сайта **McDonald's** вёўся іхняй так званай службай „Хуткай моўнай дапамогі". Прычым гэтая праца праходзіла цягам некалькіх месяцаў.

Калі цікавы карыстальнік захоча пагледзець на выdespite такой моўнай дапамогі, то, зазірнуўшы на сайт, ён, пэўна, будзе ўражаны двума момантамі — высокай якасцю перакладзенага і вялікім аб'ёмам працы, якая чакае гэтых памагатых наперадзе.

Паколькі сайт **McDonald's** прызначаны выключна для прэзентацыі, то ўсе аздабленні з'яўляюцца выявамі яго прадукцыі. Рубрыкі сайта змешчаны з левага боку. Іх не надта многа, і калі іх адкрываць, то можна пабачыць, што „Хуткая моўная дапамога" даехала не да ўсіх. Так, немагчыма пазнаёміцца з рэстараннай сеткай па-беларуску — старонка „Наша кампанія" мае толькі рускамоўную версію. А між іншым, падаецца, што даная старонка ёсць адной з найгалоўнейшых для прэзентацыі беларускамоўнасці **McDonald's**.

У той жа час выдатна прадстаўлена цалкам рэкламная старонка „Наша якасць". Там месцяцца не толькі вялікі тэкст, але і аздабленні, апісанні на якіх таксама па-беларуску.

Старонка „Праца ў МакДональдс", якая ёсць пераходам на асобны сайт, запрашае на працу толькі тых, хто размаўляе па-руску. Зразумела, там такога не напісана, але месцяцца там толькі рускамоўныя тэксты.

У той жа час прыемна чытаць старонку „Бацькам і дзецям", якая хоць і змяшчае невялікія памылкі, але выкладзена і аздоблена цалкам па-беларуску. „Хочаце зладзіць свайму дзіцяці па-сапраўднаму запамінальны і яркі Дзень Нараджэння? Тады падарыце яму займальнае падарожжа з вясёлым і неўгамонным Хэпі ў Казачнае Каралеўства ці Адкрыты Космас!" — распавядаецца на данай старонцы. Падаецца, што пасля такіх заклікаў тыя, хто мае сантымент да беларускай мовы, палічаць, што можна заплюшчыць вочы на тое, што прадукцыя **McDonald's** не лічыцца здаровым харчаваннем, і зрабіць свайму дзіцяці адзінае выключэнне, паеўшы там.

Звязацца з рэстаранам для таго, каб заказаць нешта з меню, якое, дарэчы, таксама падаецца па-беларуску, можна на старонцы „Кантакт". Яе змест таксама беларускамоўны.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара



Душпастырскі шлях Адважнага

# 125 гадоў з дня нараджэння Вінцука Адважнага

Беларускі каталіцкі святар, пісьменнік, паэт, дзеяч эміграцыі Язэп Германовіч, вядомы таксама пад псеўданімам Вінцук Адважны, нарадзіўся 4 сакавіка 1890 г. у слаўтым мястэчку Гальшаны Ашмянскага павета. Паходзіў з сялянскай сям'і: бацькі — Станіслаў і Ганна (з дому Савіцкіх) Германовічы. У 1898-1902 гг. наведваў Гальшанскую народную школу, а наступныя чатыры гады — Ашмянскую гарадскую вучэльню. У Ашмяне сустрэўся з беларускім друкаваным словам, дзе яму і ягонай сястры Людвіні беларускі святар Гуневіч даў пачытаць багушэвічаўскую „Дудку беларускую".

У 1913 г. Германовіч скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Там ён быў запісаны літоўцам — звыклая практыка тагачасных касцельных кіроўных колаў запісваць беларусаў палякамі ці літоўцамі. У жнівені 1913 г. пасвечаны ў святары, тады ж распачаў душпастырскую дзейнасць як вікарый у мясцовасці Далістова Беластоцкага павета. Пазней працаваў у розных парафіях Беластоцкага дэканата (Беласток, Крынкі, Мсцібава, Вялікая Лапеніца).

Яшчэ ў 1921 г. Германовіч уступіў у Таварыства беларускай школы, арганізаваў адну з беларускіх школ, у касцёле гаварыў казанні на беларускай мове. Гэта выклікала незадаволенасць найвышэйшай іерархіі, і Адважны змушаны быў пераехаць у Друю, дзе ў 1924 г. уступіў у ордэн марыянаў. Пачаткова выконваў абавязкі пробашча Друйскай парафіі, пазней быў магістрам навіцыяту і, акрамя таго, настаўнікам рэлігіі і лацінскай мовы ў Друйскай гімназіі.

Германовіч шырока выступаў у беларускім перыядычным друку свайго часу. Празаічныя і паэтычныя творы Вінцука Адважнага рэгулярна з'яўляліся на старонках папулярных выданняў („Krynica", „Chryscijanskaja Dumka"). Праследаваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі. З 1932 г. — на місіянерскай працы ў Харбіне (Маньчжурыя), дзе таксама быў дырэктарам гімназіі. У 1936 г. вярнуўся ў Вільню, кіраваў Беларускім марыянскім домам студэнтаў. У 1938 г. дэпартаваны разам са студэнтамі ў Цэнтральную Польшчу, адкуль у хуткім часе зноў выехаў у Харбін. У 1948 г. арыштаваны кітайскай паліцыяй і перададзены савецкім органам бяспекі. Быў засуджаны сталінскай сістэмай да 25 гадоў прымусовых работ у савецкіх канцлагерах. Знаходзіўся ў зняволенні ў Сібіры. Прайшоў пакутніцкі шлях, але ацалеў. Пасля смерці Сталіна вызвалены. Выехаў у Польшчу, пад канец 1959 г. — у Рым, а неўзабаве пераехаў у лонданскі Дом Марыянаў.

Язэп Германовіч браў актыўны ўдзел у рэлігійным і культурным жыцці беларускага замежжа. Рэдагаваў часопіс „Божым шляхам" (Лондан). Пра сваё знаходжанне ў канцлагерах напісаў успаміны „Кітай — Сібір — Масква", якія выклікалі вялікую цікавасць, былі апублікаваныя на беларускай, італьянскай, польскай і літоўскай мовах. Не так даўно гэтая кніжка зазнала новае выданне.

Памёр Язэп Германовіч 26 снежня 1978 г. у Лондане. Пахаваны на могілках Сен-Панкрас. Усё сваё жыццё ён прысвяціў душпастырскай дзейнасці і адраджэнню беларускага.

У 2011 г. у папулярнай серыі „Беларускі кнігазбор" выйшла кніжка выбраных твораў Вінцука Адважнага. Чытаючы іх, можна адчуць сапраўдны смак рэгіянальнай беларускай мовы Ашмяншчыны. Помніка ж Язэпу Германовічу ў яго родных Гальшанах, на жаль, няма.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Успамінаю Плянту паўвекавой даўнасці

Плянтай наваляўкоўцы называюць даволі вялікі лясны абшар за вёскай. У ім на невялікіх пясчаных узгорках растуць пераважна сосны ў сваім вечназялёным убранні. Сямтам можна ўбачыць елкі. Ліставыя дрэвы ў меншасці. Да лесу з поўдня і захаду падступаюць палі і лугі ды з усходу і поўначы — шырокія лугі і сенажаці.

Лес прасякае чыгунка з Гайнаўкі ў Семяноўку і далей у Цісоўку. Там, дзе пачынаюцца балоцістыя лугі ў даліне, яна бяжыць па высокім насыпе. Там і мост над некалі крутой задуменнай рачулкай Баброўкай (паўвека таму была яна вельмі прыгожай і было ў ёй многа рыбы). З лугоў бягуць да яе ручайкі. Яны асабліва булькатлівыя пасля праліўнога дажджу летам ды вясной, калі сыходзіць снег з прасторных лугоў.

У Плянце сем пратаптаных дарог і шмат дарожак ды сцяжынак. Дарогі прасякаюць лес як калісьці — сама менш 60 гадоў таму. Накірунак іх... зусім не памяняўся. Лес тады быў куды гусцейшы і таму быў цёмны, больш таямнічы ды ў спякотны дзень такі пахучы смалой. Трыццаць гадоў таму па лясных дарогах яшчэ ездзілі на сенажаці ды ганялі вялікую чараду кароў на супольныя вясковыя пашы. Я памятаю як па іх сяляне ездзілі яшчэ вазамі-жалезнякамі. Тады ў шматлікіх месцах цягнуліся глыбокія гразкія каляіны.

За маёй памяці былі ў лесе вялікія пажары. Але ён адраджаецца нанава. Зараз зарастаюць травой прызабытыя дарожкі. Усё ж што мяне цешыць — межы лесу на працягу майго 70-гадовага жыцця не памяняліся! Плянта трымаецца, жыве. Мяне не стане на гэтым белым свеце, а яна будзе расці далей, для наступных пакаленняў. Пакліча да сябе. І будуць яны збіраць, як і я збіраў у цёплую пару года, ягады і грыбы.

Ад 1951 па 1960 год мы з братам пасвілі кароў з паўвёскі (у сярэднім 45-50 штук) на лугах за лесам. Ад раніцы да вечара. У летнюю спёку і ў дажджлівыя дні. Бацька часамі выручаў нас у дзень найвялікшага ў Ляўкове летняга прыхадскога свята Пятра і Паўла (яно 12 ліпеня). Так праходзілі нам лета за летам. Пакідалі мы „пасёнку" кароў тады, калі канчаліся канікулы і прыйшла жаданая намі пара ісці ў школу. Тая пастухоўская Плянта, бывае, што і цяпер часамі прысніцца.

У Плянце не звяліся яшчэ ягады — чарніцы і брусніцы ды грыбы — баравікі. Паўвека таму розных відаў грыбоў было куды больш, чымсьці цяпер. Цяпер знаходжу яшчэ баравікі ды лісічкі ў чатырох месцах. Ягаднік устойлівы ў вядомых мне трох месцах і там бываюць ягады. Няма тут звяркоў: ні лісіц, ні зайцоў. Сустрэць можна ўсяго вавёрку або вожыка. Ад нядаўна пачалі тут шнарыць дзікія свінні. Не абмінаюць Плянты... зубры. Адзін раз яны мяне моцна напалохалі. Іх тут да гэтай пары не было.

У лесе быў лужок, на якім з вясны да позняй восені цвілі кветкі. На палянах вясной цвіў ландыш ды пад восень — верасы. Я ведаў пяць месцаў, дзе раслі сончыкі (так у нас называюць анемоны). Пяць гадоў таму было яшчэ адно такое месца. Было і знайшоў толькі адну іх „сямейку". На тым лясным пясчанажвірыстым узгорачку ссеклі сосны. Кветкі звяліся.

Помніцца мне той час, калі я быў у дзясятым класе Гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя (было гэта ў 1961 годзе). Ездзіў я тады на польскім ровары „Olimp" у вясновы лес і любаваўся сончыкамі. Радаваўся адраджэнню і аднаўленню прыроды, радаваўся жаданай вясне. Як добра ранняй вясной у сасновым лесе! Якое тут чыстае, празрыстае паветра! Сярод зялёнай ігліцы гучыць звонкі, бадзёры спеў. Спынішся і прыслухоўваешся. Спяваюць берасцянкі. Раніцай яны наладжваюць цэлыя канцэрты.

У лесе зацвіталі кураслеп, пралескі і сончыкі, а я ўжо збіраў першыя грыбы — смаршчкі. Яны любяць зарослыя травой і мохам абрывы ды берагі равоў побач лесу ў месцах, дзе даходзіць сонца і саграваe зямлю. Часта паяўляліся яны перад самым Вялікаднем.

Што цікава, у плянтаўскім лесе ёсць больш дваццаці вялікіх купчастых мурашнікаў — яны пад смалістымі соснамі і каля ядлоўцу. Найбольш іх на пясчаных узвышшах і побач сцяжынак. У іншых лясах увогуле іх няма.

Прыгожа ў лесе восенню, калі лісце на дрэвах пачынае жаўцець, набываючы розныя колеры і адценні. Сярод цёмных лапак ялін і сосен зіхаціць залатое лісце бяроз. Адны толькі елкі ды сосны ніколі не губляюць сваёй адвечнай зялёнай красы. Сонечнай раніцай на лісцях хмызняку ды на павуцінні зіхацяць буйныя кроплі халоднай і чыстай расы. Стаіш і захапляешся прыгажосцю.

Зімой бацька часам забіраў мяне ў плянтаўскі лес загатаўляць дровы і збіраць шышкі. Зімы тады былі снежныя. Ездзілі мы санкамі. У марозны дзень паганялі каня, каб хутчэй бег, а самі саскаквалі з санак і беглі за імі, каб не даваць холаду. Дровы купляўі ў нас удавіцы з нашай і з суседняй вёскі, якая называецца таксама Плянтай. Іх мужы працавалі на чыгунцы, не займаліся сельскай гаспадаркай і не мелі коней для таго, каб загатовіць дровы. Хваёвыя і яловыя шышкі (леснікі ведалі, што адсюль насенне з іх — самае лепшае для размнажэння на іншай тэрыторыі) купляў гаёвы, які жыў у Падляўкове. Так зімой мы крыху падзараблялі.

Лес Плянта захоўваецца ў маёй памяці пакуль я жыць буду. А праз 10-20 гадоў, калі я ўжо буду пахаваны на могілках у Новым Ляўкове, можа нехта возьме ў рукі родны беларускі часопіс — „Ніву" — ды прачытае пра Плянту словы мною напісаныя і зробіць параўнанне, якая яна раней была і якая ёсць у новай рэчаіснасці.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

5 ☞працяг

## Мінск — Гродна. За кулісамі (ч. 3)

мандавання, дзе быў намеснікам начальніка апаратыўнага аддзела. Пасля хвіліны чакання дырэктара, зараз пераходзім з ім на размову ў прытэатральны рэстаран на моцна спозненым сняданак. Пры салаце і каве дырэктар Гедзіч робіць агаворку, спаглядаючы на Агнешку Карыткоўскую-Мазур:

— Я ўсё ведаю пра ваш тэатр. Здаўна пастаянна гляджу на сайтах вашага тэатра што адбываецца ў вас, што ставіце. Даўно праяўлялі мы цікавасць да супрацоўніцтва з вамі, але чамусьці не было магчымасці сустрэчы з вашага боку. Бадай, з дзесяць гадоў не наведваемся. У мінулым сезоне ваш папярэднік Пётр Дамброўскі паставіў у нас «Шынель» Гогаля. Спектакль быў вельмі папулярным сярод гледачоў.

Дырэктар Карыткоўская-Мазур прапануе прыезд з беластоцкімі спектаклямі ў Гродна пры нагодзе візіту ў РТБД. Дырэктар Гедзіч:

— Май гэта кепская дата, таму што ў нас будзе ўрачыстае святкаванне заканчэння вайны. Калі ўжо, дык канец мая.

Прапануе для паказаў на беластоцкай сцэне шэраг спектакляў. У гэтым годзе гродзенскі тэатр запланаваў аж шэсць прэм'ер.

— А ці ёсць у рэпертуары маеце п'есы сучасных беларускіх драматургаў? — пытаецца дырэктарка тэатра імя Вянгеркі.

— Не маем. Нам не падабаецца сучасная беларуская драматургія. Нічога цікавага ў ёй няма.

Размову перапыняюць званкі тэлефонаў. Дырэктар гродзенскага тэатра, не падымаўшыся з-за століка, катэгарычным тонам даваў каманды. Праз некаторы час, з усмешкай і чароўным голасам пытаецца ў каляжанкі-дырэктаркі:

— Сёння ў нас ёсць шмат працы, бо на нашых сцэнах вечарам адбываецца ўрачыстае адкрыццё чатырнаццатага фестывалю праваслаўных песнапенняў «Каложскі дабравест».

Пасля гадзіннай гутаркі сядаем у машыну і вяртаемся ў Беласток. Калі перасякаем мяжу, са сцэны драматычнага тэатра ў Гродне 41 калектыў з сямі краін вітае архіепіскап гродзенскі і ваўкавыскі Арцемій:

— «Каложскі дабравест» — гэта не толькі зварот да адной толькі культуры, гэта перш за ўсё заклік вярнуцца да духоўнасці. Бо ад нашага духоўнага стану залежыць усё наша жыццё.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Адгаданка

1. аптычная прылада з дзвюх паралельных падзорных труб для разглядання аддаленых прадметаў, 2. гарбата, 3. твор выяўленчага мастацтва, дзе на аснову наклеены матэрыялы розных колерам і фактурай, 4. сталіца Буркіна Фаса, 5. паласатая конепадобная афрыканская жывёла, 6. нежанаты мужчына, 7. сталіца Францыі, 8. пакістанскі порт, 9. кавалерыст у... мангольскай сталіцы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | 2 | 3 | | | | |
| | | 4 | | | | | | 5 | 6 |
| | | | 7 | | 8 | 9 | | | |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Вазаў, жах, леў, масла, Хіва, цішыня, шына, яслі.

Рашэнне: **Не хваліся нажаўшы, а хваліся змалаціўшы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## 08.03 — 14.03

**(22.03. — 20.04.)** 8-12.03. можаш пераканацца, што твая пара ідэальная і задбаць пра гэта. Добры час для знаёмстваў і іх падтрымлівання. Дасканалы настрой, кампанейскасць. Навінецца табе геніяльная задума, як раскруціць бізнес і захочаш ісці сваёй дарогай. З 13.03. добра ўвядзеш у жыццё станоўчыя навыкі.

**(21.04. — 21.05.)** Настрой яшчэ ненайлепшы, але будзеш моцны і трывалы. Грашыма таксама не турбуйся, бо могуць прыйсці да цябе неспадзявана, напрыклад як вяртанне забытага доўгу. Калі дамагаешся павышэння або нейкага карыснага кантракта, не маўчы. Але не страць усяго, што табе лёгка дастанецца.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш шчаслівы і ўдачлівы. Выдатны настрой. Дасканалыя лады з шэфам. Мноства задач і службовых спраў, сумленна ўсё выконвай, будзь дысцыплінаваным і талковым, усё тое, што цяпер зробіш, аддзячыць табе ў будучыні (парайся з асобай, якая паявіцца 13.03.). Наракаючы на недахоп грошай, паслухай свайго сябра.

**(23.06. — 23.07.)** Каханне на гарызонце (Рак народжаны 5-9.07. няхай пільнуецца, бо можа сустрэць маніпулянта і ашуканца!). Дома большая адказнасць. Настрой добры, жыццярадаснасць і вітальнасць, але прыглядайся да таго, што ясі, асабліва калі ты чэрвеньскі Рак. Стралец дадасць табе крылаў.

**(24.07. — 23.08.)** Вельмі міла ў старых парах. Будзеш ганарыцца дзецьмі (найбольш 7-11.03.), не шкадуй ім пахвал і не дазволь, каб вашы кантакты абмяжоўваліся да чыста паўсядзённых спраў. Будзеш ахвотна варушыцца і прабаваць новага, што падыме ўзровень эндарфіну ў тваіх мазгах.

**(24.08. — 23.09.)** У пары найлепш дагаварыцца, расказаць аб сваіх апасках і патрэбах (найлепш паміж 9 і 13.03.). Дзева народжаная ў жніўні можа пераканацца, што старое каханне не ржавее. Дома будзь менш крытычным. Здароўе някепскае, але абавязкова варушыся, шпацыруй, займайся гімнастыкай. Адносна дыеты не натужвайся, бо і так твая воля цяпер ненаймацнейшая.

**(24.09. — 23.10.)** У пачуццях гармонія. У сям'і і радні размаўляй, міры ўсіх дома. Да Шаляў народжаных 5-10.10. адазвецца хтосьці даўно не бачаны, а дзеці пакажуць сваю таленавітасць. Услухайся ў тое, што «гавораць» тваё цела, не занядбоўвай яго. Лепш абмінай шынкі і кавярні. Стрымайся з большымі выдаткамі. 9-13.03. не ўблытайся ў канфлікт з шэфам або бацькам.

**(24.10. — 22.11.)** Удасца табе адарвацца ад таго, што было кепскае і пачаць новы раздзел у сваім жыцці. Зможаш убачыць таго, хто здаўна табе прыглядаецца. А Скарпіёнаў у пастаянных парах партнёр чымсьці здзівіць, небавязкова мілым; будзь цярплівым і паблажлівым, шкада траціць нервы. Адважна размаўляй, бо цяпер маеш непаўторны шанц выразаць найважнейшае. Скарпіён народжаны пасля 15.11. няхай утаймуе свае эмоцыі.

**(23.11. — 22.12.)** 8-12.03. зробіш адважны крок і адкрыеш новы раздзел у сваім жыцці. Зоркі дадаюць табе адвагі і падкрэсляць вабнасць. Не крытыкуй усіх падрад, пахвалі час ад часу. Калі шукаеш працу, больш пастарайся. Запішыся на курсы па павышэнні кваліфікацыі.

**(23.12. — 20.01.)** Гэты час можа многа змяніць. Не бойся падаваць сур'ёзных прапаноў. Не звяртай увагі на „мухі" партнёра, міне яму. Калі хочаш пераканаць сваіх блізкіх да важнага для цябе, зрабі гэта 7-11.03., лягчэй тады дагаварыцца. Хадзі на прыроду. 9-13.03. дапільнуй працу, бо ёсць асобы, якія чакаюць што ты спатыкнешся. Не бяры пазык.

**(21.01. — 19.02.)** Не скачы „на бакі", бо ўсё хутка выявіцца і можаш шмат страціць. Рэгулярна практыкуйся, каб утаймаваць стрэс; папівай гарбатку з імбірам. Пільной кашалька, бо чакаюць цябе неўзабаве выдаткі, і грош прыдасца. 9-13.03. на працы будзе нервовая, запальная атмасфера; не дзьміся!

**(20.02. — 21.03.)** Запрагнеш спакою, нават схаваешся ў глыб сябе. Давярай сваім прадчуванням і інтуіцыі. Дбай аб сябе, асабліва аб вочы, а таксама аб сэрца і кровазварот, якія хоць у цябе працуюць някепска, але механізмы могуць заклініцца. 8-12.03. пачнеш адважна дзейнічаць. Але не перацані сваіх сіл. З 13.03. будзеш хуткі і рашучы, сыпнеш задумамі як з рукава; знакаміты настрой, знойдзеш выхад з кожнай сітуацыі.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# БАЦЮШКА ПЕРАШКАДЖАЕ

Аўтобус у Беластоку ўжо часткова запоўнены, таму займаю сядзенне ў перадапошнім радку. Між Макаўкай і Галяковай Шыяй аўтобус набірае пяцёрку адносна маладых людзей, сярэдні ўзрост якіх каля дваццаці. Займаюць яны месцы ў апошнім радку, быццам акружаючы мяне своеасаблівым вяночкам. Гэта малады калектыў, гэты вяночак, быццам з кветак, расхінае вакол сябе своеасаблівы водар, крыху ўдушлівы. Гэта традыцыйныя „духі" нашай традыцыйнай вёскі, перанесеныя ў XXI стагоддзе яе маладым пакаленнем, яго гігіенічнай дагледжанасцю.

У Гайнаўцы аўтобус лягчэе, раздольнее. Мяняю месца, пераходжу ў пярэдні радок, з якога найлепш відаць дарожнае палатно. Аўтобус цяпер імчыць у напрамку Кляшчэль, Драгічына, Варшавы. Па шашы яшчэ ходзяць дарожныя работнікі, якія наводзяць ужо апошнія, касметычныя паправўкі. Дарога складаецца з дзвюх палос — адна для самаходаў, другая для веласіпедаў. Усведамляю сабе, што няма там месца для гужавога транспарту, які царыў у час, калі яшчэ гэтай дарогі не было, у пачатку 1950-х гадоў, акурат у палове мінулага стагоддзя. Цьмяна прыгадваю тадышні гайнаўскі рынак, які месціўся ў раёне вуліцы Гандлёвай, быццам на тапаграфічным калене цяперашняй вуліцы Пілсудскага. Гэта была таўкатня фурманак, суправаджаная стрэсам так фурманоў, як і коней. А зараз, у нашым новым стагоддзі, уезд у Гайнаўку гужавым транспартам здаецца не забаронены, але, здаецца таксама, немагчымы; прынамсі з боку Варшавы. Сімвалам нашай мясцовай традыцыі, у тым ліку хамутам, якія ядналі дугі з аглоблямі, ужо ў нас не месца. Захоўванне традыцыі ў нас здаецца быць селектыўным...

З аўтобуса звалакаюся ў Дубічах-Царкоўных недзе перад дзявятай гадзінай раніцы. Іду па галоўнай вуліцы, якая так і называецца — Główna. У гмінным цэнтры пуставата — пакуль дайду да разгалінавання вуліцы Паркавай, па вуліцы праедуць толькі дзве асобы на веласіпедах: жанчына на веласіпедзе-грузавіку, з напоўненай пакупкамі сумкай, і мужчына на веласіпедзе-легкавушцы. Кіруюся ў Паркавую, бо там мае быць салідная крама, у якой хачу заправіцца нейкімі харчамі на далейшую дарогу. Краму з шыльдай паштовага агенцтва і маркай піва „Żubr" мінаю, не спадзяючыся ў ёй саліднейшай спажывы.

Калі я быў у той „салідная" краме, дакладна не помню — недзе каля года таму. Было там крыху людзей, было таксама крыху прыстойнага тавару. З добрай надзеяй завітаў я туды і цяпер, але карціна аказалася моцна мінорнай. Тавару малавата, ды і якасці ён балючай. Так і гавару прадаўцу з надзеяй даведацца, чаму так там памарнела.

— Бо бацюшка перашкаджае, — адказвае мне.

Мае шэрыя звіліны не спраўляюцца з гэтай інфармацыяй, таму прадавец, быццам у ходзе нейкай тэлевіктарыны, падказвае:

— Забірае людзей.

— А ці ў Дубічах ёсць яшчэ іншыя крамы? — цікаўлюся магчымай канкурэнцыяй, не надта верачы, што бацюшка мог увесці такія вялікія змены ў дубіцкі гандаль.

— Ёсць яшчэ дзве: адна разам з паштовым агенцтвам, а другая на запраўвачнай станцыі з другога боку шашы.

— А пошты ўжо няма?

— Няма. І ёсць яшчэ ў нас тры бары...

— Адзін насупраць паштовага агенцтва...

— А два каля запраўвачнай станцыі.

Купляю толькі тры булачкі. Выходзячы з крамы, аглядаюся на яе шыльду — „Delikatesy"...

Каля Паркавай вуліцы, як і трэба спадзявацца — парк. А ў парку помнік — чырвонаармейцам, да таго ж яшчэ звершаны фігурай наступаючага „воіна-асвабадзіцеля". Вось нядаўна ў Варшаве падобны па ідэі помнік, што стаяў каля пражскага праваслаўнага сабора, быў адтуль забраны, бо ягоныя адрасаты пераcталі лічыцца вызваліцелямі. Гледзячы на апошнія падзеі, што разыгрываюцца кругом Азоўскага мора, цяжка не пагадзіцца з варшаўскімі высновамі, бо ж найчасцей носьбіты ружжа, што прыходзілі з Усходу нас „вызваліць", нагул прыносілі нам дэмаграфічную катастрофу, як хацяб Бежанства стогадовай даўнасці, задуманае і праведзенае менавіта Масквою. Ды і іншыя светлабудучныя маскоўскія выдумкі прыносілі такія ж вынікі. Наша тутэйшае грамадства, калыханае дзесяцігоддзямі маскоўскай прапагандай, падмацаванае асобнымі вылазкамі выраджаў з Захаду, лёгкенька лунала ў гэткім шчаслівым сне пра ўсходняга анёла-ахоўніка. Да таго ж фальклор умройваў нашу свядомасць прынцамі і прынцэсамі з-за трыдзевяці зямель ці хацяб казакамі ад Дуная. І не надта верыцца мне, што тыя фантазіі лёгка выветраюцца. Хаця паявілася думка ўшанавання нашых землякоў, што загінулі ў выніку Бежанства, але сумняваюся ці яна разумна выправіць вектар нашых прывычных сімпатый. Пра віноўнікаў там не будзе згадкі, бо ж яны — са „Святой Русі".

Маркую, што згаданы помнік у Дубічах з'явіўся не ў выніку нейкай дырэктывы з ранейшых уладных вярхоў, але па спантаннай мясцовай ініцыятыве. Узведзены ён асобам, пра якіх, апрача некаторых прозвішчаў, нічога істотнага невядома. Ці яны часам у сябе не падкрадалі каласкоў з калгасных палёў, ці яны не брыдкасловілі на сваіх вуліцах, ці яны не ўшчыналі нейкіх боек, не падкрадалі сала з бацькоўскіх камораў, ці раней не мянялі яны крадзенай вопраткі на гарэлку? Каля Грабаўца іхнія баявыя таварышы выдурылі ад Васіля Петручука літр самагонкі ды яшчэ амаль яго пры нагодзе не расстралялі („Пожня", с. 136-138). Нічуць тыя чырвонаармейцы не былі лепшымі ад мясцовых, але нашы актывісты помнік ім узмахнулі.

А калі б так з'явілася нейкая думка ўшанавання ў нас каго мясцовага, тутэйшага? Напэўна зараз з'явіліся б засцярогі, што той мясцовы нешта не так сказаў, нешта не так зрабіў, не так ступіў. Не атрымалася б. А ўжо хіба найгорш было б, калі б трэба было ўшанаваць нейкую творчую асобу...

Я час ад часу заглядаю на маскоўскі партал rulit.net, які прапануе знаёмства з сусветнай літаратурай. І вось пацікавіўся я, ці ёсць там прапановы знаёмства з творамі нашых тутэйшых літаратараў. Знайшоў я адно „Клавуню" менавіта Васіля Петручука; іншых нашых „белавежцаў" не ўдалося мне там пабачыць. А гэта абазначае, надта проста ўзяўшы, што з нашых літаратараў сусветна вядомы толькі спадар Петручук, які нарадзіўся і вырас каля кіламетра ад згаданага помніка. Уяўляю сабе, якую буру выклікала б прапанова нейкага яго ўшанавання на ягонай малой радзіме. Народная пагаворка кажа: „Як з яйца, так да канца"... Хаця, як мне здаецца, той дубіцкі помнік па сваёй сутнасці з'яўляецца помнікам узгадаванай на тамашнім грунце Петручуковай душы, ягоных і яго землякоў найглыбейшых сімпатый. Помнікам менавіта Васілю Петручуку, толькі з прытворным прысвячэннем...

З Дубіч кіруюся ў бок Тафілаўцаў. Перад Тафілаўцамі рэчка Арлянка свежанька пракапаная, рэчышча выпраставанае як пад лінейку, берагі ўмацаваныя, надрэчны рэльеф сфармаваны з геаметрычных плоскіх прамавугольнікаў і трапецый. Гэтая інвестыцыя на амаль дзесяцікіламетровым адрэзку Арлянкі ў вобрубах вёсак Карыцкі і Тафілаўцы мае за мэту выправіць умовы пратоку вады ў рэчышчы, спрычыніцца да абмежавання паводкавых страт ды ўзбуйніць ураджайнасць траў: „Kanał Koryciska, prowadząc wody własnej zlewni stwarza zagrożenia powodziowe dla znacznej części doliny wykorzystywanej rolniczo. Kształtuje niekorzystne uwilgotnienia — zalewy i podtopienia, a w okresie wegetacji zbyt mocno drenuje dolinę powodując niedobory wilgoci w glebie, co sprawia, że stosunkowo wysoki potencjał produkcyjny gleb (głównie użytki zielone) nie jest wykorzystywany. W ocenie gospodarczej stan ten uznać należy za wyjątkowo niekorzystny, hamujący intensyfikację rolnictwa. Rozpoznając problem z przyrodniczego punktu widzenia zauważyć należy, że taka sytuacja sprzyja zachowaniu, w niezakłóconym stanie, walorów środowiska przyrodniczego. Mając jednak na uwadze założenia „Strategii zrównoważonego rozwoju Województwa Podlaskiego", w tym program rozwoju gminy Dubicze Cerkiewne, w którym rolnicza przestrzeń produkcyjna powinna być w pełni gospodarczo wykorzystana, uzasadnione jest podejmowanie działań technicznych na rzecz poprawy aktualnego stanu gospodarki wodnej w dolinie".

Сама вёска Тафілаўцы даволі арыгінальная ў тапаграфічным кшталце. Вуліца тут з некалькіх прамалінейных, перпендыкулярных да сябе адрэзкаў, якіх агульная лінія трымаецца ўзбярэжжа Арлянкі. Дубіцкі гмінны партал: „Właściwa nazwa Tofiłowce wywodzi się od imienia szlachcica Teofila Brzozowskiego. Był on podstarostą brańskim w latach 1559-67 i podkomorzym bielskim w latach 1561-64. Dawniej wieś nosiła nazwę Dubicze Szlacheckie, a po objęciu włók wójtowskich przez J.P. Teofila (gw. Tofila) wieś zmieniła nazwę na Dubicze Tofiłowce. Obecnie nazwa zatraca swój pierwszy człon i bywa używana po prostu jako Tofiłowce". Дадаць яшчэ варта, што згаданы ўладальнік быў адным з падпісантаў Люблінскай уніі, якая далучыла Падляшша да Кароны. Ды, здаецца, „ахрысціў" ён не толькі Тафілаўцы, але таксама недалёкае Старое Беразова, а пасля і Новае... Само імя Teofil грэчаскага выводу, а па-нашаму яно гучала б Багалюб. Дарэчы, жыхары Тафілаўцаў, здаецца, захавалі вытворную ад тапаніміі набожнасць, бо амаль на кожным са шматлікіх заломаў вясковай вуліцы стаіць бетонны крыж з адмысловым надпісам.

Амаль усе хаты здаюцца быць абжытымі, а калі гаспадары нават жывуць недзе ў іншай мясцовасці, то яны, відаць, часта заглядаюць і ў Тафілаўцы; запушчаных хат мала. Пасярэдзіне вёскі навюсенька абліцаванае пажарнае дэпо, у якім з аднаго боку гараж, а з другога гастранамічны адсек з кухняй і сталовай залай. Здаецца, што Тафілаўцам бацюшка не перашкаджае, але наадварот — спрыяе. Вясковая святліца нарыхтавана бадай для спраўлянне памінальных вячэраў. За святліцай асірочаны будынак пункта прыёму малака...



Парк у Дубічах-Царкоўных







Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

ISSN 0546-1960